ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.17 (3137) ● ● ЧАЦВЕР, 14 мая, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Каб прыгажэла зямля**

Прадстаўнікі нацыянальна-культурных супольнасцяў краіны высадзілі разам алею Дружбы Стар. 2



**Знічкі Айчыны** Стар. 3



**Свята ў родных вокнах**

Адсвяткавала юбілей Бірутэ Куцкайтэ Стар. 4

ПАДЗЕЯ

# Месца сяброўскіх сустрэч

## Дэлегацыя беларускай дыяспары прыняла ўдзел ў 13-й міжнароднай выставе "СМІ ў Беларусі"

Іван Жданові̌ч




ІВАН ЖДАНОВІЧ

Беларусы Латвіі прэзентуюць на выставе сваю газету "Прамень"



ІВАН ЖДАНОВІЧ

З экспазіцыяй дыяспары знаёміцца першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Наталля Пяткевіч

Менавіта 5 мая, калі святкуецца Дзень друку, урачыста адкрываецца гэтая выстава. Калегі-журналісты розных друкаваных і электронных выданняў сустракаюцца ў выставачным цэнтры "БелЭкспа", што па вуліцы Янкі Купалы. І на гэты раз свае стэнды афармілі дзесяткі экспанентаў як з нашай краіны, так і з Расіі, Украіны, Латвіі, Азербайджана, Польшчы, Швейцарыі, Вялікабрытаніі, Францыі, Кітая, Ізраіля.

Выстава — месца шматлікіх знаёмстваў, кантактаў, а таксама і адкрыццяў. Штогод у інфармацыйнай прасторы краіны з'яўляюцца новыя выданні, зменьваецца і іх статус. Скажам, для некаторых з наведвальнікаў было адкрыццём, што газета "Голас Радзімы" цяпер уваходзіць у склад медыяхолдынга "СБ-Беларусь сегодня". На прыгожа аформленым стэндзе самай папулярнай газеты Беларусі можна было ўбачыць і наша выданне, а таксама англамоўны штотыднёвік "The Minsk Times", штомесячны часопіс "Беларусь.Belarus" (ён цяпер выходзіць на беларускай, англійскай, іспанскай, польскай і нямецкай мовах), газету "СОЮЗ" (сумесны беларуска-расійскі праект, па чацвяргах яе атрымліваюць падпісчыкі "СБ-Беларусь сегодня" і "Российской газеты"), нядаўна створаны часопіс "Спецназ".

Па традыцыі афармляюць свой стэнд і прадстаўнікі беларускай дыяспары. А сустракаюць гасцей у Мінску, арганізацыйна дапамагаюць ім апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі сумесна з таварыствам "Радзіма". Як вядома, моцныя саюзы, асацыяцыі, аб'яднанні суайчыннікаў за мяжой, ды і асобныя суполкі ў замежжы маюць свае выданні. Напрыклад, перыядычна дасылае ў нашу рэдакцыю газету "Маланка" Алег Рудакоў з Іркуцка. Сёлета ж прыехалі ў Мінск дэлегацыі з расійскіх гарадоў Томска, Санкт-Пецярбурга, Новасібірска, а таксама з Польшчы, Латвіі. Сярод гасцей былі і такія вядомыя людзі, як дэпутат Польскага Сейма, галоўны рэдактар часопіса "Праваслаўны агляд" Яўген Чыквін і старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", прафесар Ян Чыквін з Беластока, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Валянціна Піскунова, скульптар Ігар Лебедзеў з Томска... Пра іх справы, праекты, уражанні ад наведвання Беларусі мы яшчэ раскажам у бліжэйшых нумарах газеты.

"Мне вельмі цікава пагля-дзець і на сённяшнія сродкі масавай інфармацыі Беларусі, і на тое, як робяць свае "інфармацыйныя прадукты" нашы суайчыннікі ў суполках за мяжой, — расказаў госць з Санкт-Пецярбурга, старшыня праўлення фонду "Белыя Росы" Аляксандр Сідарок. — Маю і чыста практычны інтарэс: мы ж таксама збіраемся арганізаваць у паўночнай расійскай сталіцы выданне для нашых суайчыннікаў. А нас там, паводле некаторых звестак, цяпер звыш ста тысяч. Спадзяюся, друкаванае выданне дапаможа беларусам аб'ядноўвацца, а таксама будзе даваць ім актуальную культурна-асветніцкую інфармацыю".

Прадстаўнікі беларускай дыяспары пабывалі ў таварыстве "Радзіма", удзельнічалі ў афармленні стэнда "СМІ беларускай дыяспары" і, канешне ж, працавалі на самой выставе. Для іх была арганізавана сустрэча ў Палацы прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, падрыхтавана культурная праграма. На другі дзень знаходжання ў Мінску прадстаўнікі дыяспары ўдзельнічалі ў інфармацыйным форуме "СМІ ў перыяд глабальнага крызісу", які праходзіў у Нацыянальнай бібліятэцы. Трэці дзень быў таксама багатым на сустрэчы: спачатку сяброў з замежжа прыняў Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі Леанід Гуляка, а потым у Нацыянальным прэс-цэнтры прайшоў круглы стол "Дыялог дыяспар: шматнацыянальная Беларусь — беларускае замежжа" з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары.

ВЕСТКІ

## З карысцю для партнёрства

**Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр захавае памяць аб чарнобыльскай аварыі ў спецыяльным праекце "Майстэрня будучыні". Аб гэтым расказала дырэктар цэнтра Астрыд Зам падчас удзелу ў канферэнцыі "Праекты распрацоўваюцца ў партнёрстве", якая адбылася ў германскім горадзе Гезеке.**

"Майстэрня будучыні" стане месцам памяці, дзе будуць сабраны ўспаміны аб чарнобыльскай катастрофе як прыклад грамадскай актыўнасці. Пасол Беларусі ў ФРГ Уладзімір Скварцоў, які прысутнічаў на канферэнцыі, падкрэсліў важнасць сумесных праектаў грамадзянскіх ініцыятыў, якія не маюць межаў у сваёй дзейнасці. Ён звярнуў увагу, што падобнае супрацоўніцтва часта аказваецца прадвеснікам афіцыйнай міждзяржаўнай кааперацыі, таму што яно адлюстроўвае пэўныя інтарэсы людзей.

Дарэчы, наступная партнёрская канферэнцыя адбудзецца ў Мінску праз два гады і будзе прымеркавана да 25-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы.

## Кантакты — у развіцці

**Віцебск і Харбін маюць намер ладзіць узаемнае супрацоўніцтва**

Улады беларускага і кітайскага рэгіёнаў будуць надаваць вялікую ўвагу найперш адносінам у гандлёвай сферы. Віцебск ужо атрымаў запрашэнне прыняць удзел у Харбінскім міжнародным гандлёва-эканамічным кірмашы, які пройдзе на пачатку лета. А ў хуткім часе з магчымасцямі вядзення бізнесу ў свабоднай эканамічнай зоне "Віцебск" пазнаёміцца госці з Кітая.

Дзеля замацавання дамоўленасцяў паміж двума гарадамі падпісаны дагавор аб пабрацімскіх сувязях. Дарэчы, Харбін стаў другім кітайскім горадам, які цяпер мае з Віцебскам падобны дагавор. Першым быў горад Дзінань, з якім ужо рэалізуюцца сумесныя праекты. Напрыклад, у Віцебску хутка будзе створаны аздараўленчы цэнтр традыцыйнай кітайскай медыцыны. Школьнікі з Дзінаня прымуць удзел у міжнародным дзіцячым пленэры "Віцебск — горад Марка Шагала".

# Каб прыгажэла зямля

## Прадстаўнікі нацыянальна-культурных супольнасцяў высадзілі алею Дружбы

Янка Яцкавец



Дрэўцы — добры знак на зямлі, які пакідаюць людзі розных нацыянальнасцяў

Пагадзіцеся, высаджваць дрэвы, тым больш у спрыяльную пару — гэта заўсёды сугучна часу. Нават калі па свеце гуляюць фінансавы крызіс і небяспечныя вірусы… Прыемна, што стваральны парыў украінскага таварыства "Ватра" знайшоў падтрымку. Пра гэта і паведаміў у рэдакцыю прэс-сакратар апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Міхаіл Рыбакоў.

"Арганізаваны намі аўтобус з Мінска на сорак месцаў быў цалкам запоўнены, а многія ж дабіраліся яшчэ ў Музей народнай архітэктуры і побыту на сваіх аўто, — удакладніў ён. — Настрой у людзей быў цудоўны, і сама прырода быццам падахвочвала выбрацца за горад для важнай справы: нядзеля выдалася цёплая, сонечная…"

Ехалі ў прыгарадную вёску Азярцо весела, спяваючы песні — бо многа ж было і самадзейных артыстаў — украінцы і армяне, азербайджанцы і карэйцы, немцы і грэкі… А яшчэ дагестанцы, афганцы, грузіны і прадстаўнікі іншых супольнасцяў, якія пражываюць у Беларусі. Па папярэдняй дамоўленасці супрацоўнікі Музея, на тэрыторыі якога ў мініяцюры прадстаўлена ўся Беларусь, выбралі месца пад алею і выкапалі ямы пад дрэвы. А мясцовы лясгас завёз з пітомніка прыгожыя ліпкі.

"Я жыла з такою марою многія гады, — усхвалявана згадвае гэтае сапраўднае свята дружбы Таццяна Бей, намеснік старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў "Ватра". — Бо вельмі ўдзячна краіне, у якой жыву, дзе маю і радавыя карані па маці. Дарэчы, толькі сёлета ўкраінцы пасадзілі па Беларусі каля двух з паловай тысяч дрэваў, у тым ліку і дубы ў Лідзе. Першапачаткова збіраліся мы высаджваць дубы і на тэрыторыі Музея, аднак паводле канцэпцыі асваення тэрыторыі там больш падышлі ліпы".

Па словах Таццяны, яна сама сябруе з людзьмі розных нацыянальнасцяў, і многіх запрасіла "на свята ў Азярцо". І ўсё атрымалася як нельга лепш! Былі шмат станоўчых эмоцый і незабыўны інтэрнацыянальны канцэрт, "і адчуванне моцнага адзінства паміж намі", падмацаванае "разам спажытым хлебам" і задушэўнымі песнямі за агульным сталом. Дарэчы, потым некаторыя з сяброў ёй са слязьмі прызнаваліся, што менавіта ў Азярцы, пад Мінскам будзе расці іх рукамі ўпершыню ў жыцці пасаджанае дрэва…

Застаецца яшчэ дадаць, што сваю алею гэтыя шчырыя людзі прысвяцілі 65-годдзю вызвалення Беларусі ад фашыстаў і Году роднай зямлі. Таму, дарэчы, па ініцыятыве скульптара і паэта дагестанца Хізры Асадулаева ўсе ліпкі сустрэлі Дзень Перамогі з Георгіеўскімі стужкамі на ўжо зазеляненых галінках.

# Калі дагарэла вайна

## Напярэдадні Дня Перамогі на экраны выйшаў фільм "Кадэт", прысвечаны пасляваеннаму жыццю беларускай вёскі

Аляксей Арэшка



Рэжысёр Віталь Дудзін (справа) задаволены працай з акцёрамі

Вялікае супрацьстаянне не скончылася ў 45-м. Гады ваеннага ліхалецця надоўга падзялілі свет на сваіх і чужых. Прывыклі і вяскоўцы, што перажылі фашысцкую акупацыю, быць асцярожнымі, уважліва прыглядвацца нават да суседзяў: а раптам за плотам жыве вораг?..

Сірата-курсант суворaўскага вучылішча Дзяніс Мяшко, які прыязджае на тэрыторыю былой Заходняй Беларусі на пабыўку да бабулі, адразу ж аказваецца ў эпіцэнтры напружаных падзей. Хто і чаму забіў яго дзядзьку, былога партызана, старшыню сельсавета? Можа, той самы дзяцюк Мечыслаў, што сустрэўся яму па дарозе і яшчэ з вайны чамусьці хаваецца ў навакольных лясах? Дзяніс цвёрда вырашыў знайсці і пакараць забойцу...

Між тым, гэты фільм не толькі пра нянавісць, прагу помсты, але і пра чалавечнасць, і пра моцнае каханне, у імя якога людзі гатовы ахвяраваць сабою. Вельмі важная сэнсавая лінія кінастужкі.

Цяжка вызначыць, да якога жанру аднесці твор. Кінааповед атрымаўся цэльным, дынамічным, ён часам жорсткі, але пераважна светлы, чалавечны, лірычны — быццам рэжысёр Віталь Дудзін прымушае нас паглядзець на свет вачыма неабстралянага кадэта Дзяніса. Дапамагаюць раскрыць шчырую душу абаяльнага хлопца, парадавацца прыгожай сіле жыцця і цудоўныя беларускія краявіды з лясамі, лугамі, рэчкай — фільм здымаўся на ўлонні запаветнай беларускай прыроды.

У аснову сцэнарыя, як гаварылася на прэзентацыі кінастужкі ў сталічным кінатэатры "Кастрычнік", пакладзена аповесць акцёра і пісьменніка Анатоля Жука "Помста матылькоў". Рэжысёр Віталь Дудзін зняў фільм на кінастудыі "Беларусьфільм" і з задавальненнем адзначыў, што ў ім заняты "толькі беларускія, прычым вельмі таленавітыя акцёры".

# Помніць Вена!

## Песні народнага артыста Беларусі Ігара Лучанка гучалі ў сталіцы Аўстрыі

Без ягоных кранальных мелодый цяжка і ўявіць сёння Свята Перамогі. Сімвалічна, што папулярныя песні Ігара Міхайлавіча гучалі 8 мая ў Вене, у Расійскім цэнтры навукі і культуры. Іх выконваў заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Правалінскі. Як паведаміў сам Ігар Лучанок, вечар, арганізаваны пасольствам Беларусі ў Аўстрыі, прысвячаўся 65-годдзю вызвалення Беларусі ад фашыстаў.

Гледачы цёпла віталі песні "Майскі вальс" ("Помніць Вена, помняць Альпы і Дунай..."), "Пісьмо з 45-га" на вершы паэта-франтавіка Міхаіла Ясеня. Пачулі госці вечара і "Алесю" на вершы франтавіка Аркадзя Куляшова, а таксама "Жураўлі на Палессе ляцяць", "Мой родны кут" і іншыя песні кампазітара. Прагучала і шырока вядомая песня "Белоруссия" Аляксандры Пахмутавай і Мікалая Дабранравава, з якімі даўно сябруе Ігар Лучанок.

# Праз пяць стагоддзяў

## Кніга вядомага беларускага паэта-лацініста эпохі Адраджэння Міколы Гусоўскага выдадзена ў Італіі

Ніна Мараднева

Рарытэтнае выданне паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" атрымалі Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў і Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей. Іх прадстаўнікам такі падарунак быў уручаны на адкрыцці выставы ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, якая адначасна стала прэзентацыяй унікальнага выдання.

Надрукавана кніга на спецыяльнай паперы і амаль уручную прашыта. Новае выданне паэмы нашага земляка выйшла ў свет у Італіі. Гэта вялікая сумесная праца беларускага мастака Юрыя Якавенкі, які зрабіў малюнкі да кнігі, і вядомага італьянскага майстра-друкара Джуліяна Якамучы. Работа над выданнем працягвалася каля двух гадоў, і цяпер на выставе ў музеі можна ўбачыць і творы графікі Юрыя Якавенкі, якія ўпрыгожылі паэму, і саму кнігу.


Малюнак да паэмы "Песня пра зубра" мастака Юрыя Якавенкі.

"Песню пра зубра" беларускі паэт-лацініст эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі стварыў, калі быў у Італіі, для Папы Льва X, які хацеў больш даведацца пра зубра (рэдкага прадстаўніка жывёльнага свету, які і цяпер жыве ў Белавежскай пушчы) і паляванню на яго. Але, безумоўна, гэты твор — і пра беларусаў, пра іх заняткі, звычаі, вераванні. А патрапіў наш зямляк у Рым у 1520 годзе ў складзе дыпламатычнай місіі і правёў там некалькі гадоў.

Спачатку выдаць паэму ў Італіі ў Гусоўскага не атрымалася. Аднак дзякуючы дапамозе вялікай княгіні літоўскай і каралевы польскай Боны Сфорца паэтычны зборнік "Песня пра зубра" выйшаў у Кракаве.

І вось цяпер, праз пяць стагоддзяў, тая гісторыя атрымала працяг. Дарэчы, цяпер выканана і жаданне Міколы Гусоўскага, каб з кнігай пазнаёміўся Папа Рымскі: новае выданне перададзена ў Ватыкан.

Кожнае падарожжа да Стоўбцаў у апошнія гады ў мяне пачынаецца са званка Анатолю Грэкаву, які працуе ў мясцовым райвыканкаме начальнікам аддзела культуры. Ён і падкажа, што новага апошнім часам у раёне адбылося, да каго варта было б дапытліваму журналісту завітаць. Такой традыцыі паследаваў і на гэты раз. Па тэлефоне запытаўся ў Анатоля Васільевіча, а з кім жа магу з цікавых людзей пазнаёміцца. “Ды ўсе руплівыя і таленавітыя ў Мінск уцякаюць…” — засмучаным падаўся мне голас Грэкава. Гэтак ён пачаў распавед пра маладую зорку, заснавальніка арт-групы “Беларусы” Валерыя Шмата…



Стоўбцы. Вакзал. 1930-я гады

# Знічкі Айчыны



Стоўбцы. Касцёл. 1930-я гады


Рынак у гандлёвы дзень. 1930-я гады


Стоўбцы. Царква. 1930-я гады

**Алесь Карлюкевіч**

Так, гэты эстрадны калектыў цяпер, што называецца, на слыху. Шмат гастралюе, выступае на самых прэстыжных святочных канцэртах. А заснавальнікам і кіраўніком арт-групы з’яўляецца Валерый Шмат, ураджэнец славутай стаўбцоўскай вёскі Налібакі (нараджэннем ён з 1980 года). Не збіраючыся аспрэчваць настрой Анатоля Васільевіча, размову з ім я ўсё ж адклаў на сустрэчу ў Стоўбцах. А для сябе вырашыў, што абавязкова ў чарговую вандроўку сустрэнуся з пісьменніцай Лідзіяй Канстанцінаўнай Адамовіч — яна жыве і працуе ў раённым цэнтры. Мае ўжо некалькі кніг. У апавяданнях сваіх досыць уважліва да псіхалогіі чалавека. Шмат піша пра стасункі не толькі дарослых, але і дзяцей з верай, рэлігіяй. Мне бачыцца ў гэтым добры знак: Лідзія Адамовіч адраджае традыцыю пісьменніка духоўнага, рэлігійнага складу. Мяркую, што такой літаратуры павінна быць як мага болей. Ужо хаця б таму, што шлях да веры зусім не кароткі, а патрабуе асэнсавання, пэўных тлумачэнняў. І яшчэ наважыўся я сустрэцца ў пасёлку Новаколасава з празаікам Алесем Гарою (гэта псеўданім такі ў выкладчыка мясцовай музычнай школы Аляксандра Аляшкевіча). А вось ён працуе ў галіне фантастыкі, часта друкуецца ў часопісе “Маладосць”, калектыўных зборніках прыгодніцкай і фантастычнай літаратуры.

Калі пашчасціць, можа сустрэнуся ў Новым Свержані з празаікам Юрыем Пяткевічам. Яго пакуль што мала ведаюць у Беларусі, бо друкуецца пісьменнік у асноўным у маскоўскіх выданнях. Асабліва часта — у “тоўстых” расійскіх літаратурна-мастацкіх часопісах.

…Здаўна павялося так, што Стаўбцоўскі край прыцягваў увагу майстроў прыгожага пісьменства. І традыцыя такая была пакладзена задоўга да Якуба Коласа і яго наступнікаў. Вытокі творчага сталення Уладзіслава Сыракомлі, знакамітага беларуска-польскага літаратара, — на Стаўпеччыне, у Стаўпецкім Наднямонні. Залучча, Жукаў Барок — цяпер ужо гэта і літаратурныя тапонімы, бо па праву лічацца згаданыя мясціны літаратурнымі адрасамі Міншчыны, Беларусі. Дзякуючы Уладзіславу Сыракомлі (сапраўднае прозвішча — Людвік Кандратовіч, 1823–1861), Стаўпеччына дзевятнаццатага стагоддзя — і перад нашымі вачыма. Звернемся да ягонай кнігі “Вандроўкі па маіх былых ваколіцах”: “ Са Свержаня, замест таго, каб падацца паштовым гасцінцам, што праз доўгі мост вядзе на Мінск, едзем прыватнай бітай дарогай — агледзець другое сплаўнае мястэчка Стоўбцы, якое ляжыць праз вярсты дзве на другім беразе Нёмана. Кароткая дарога ідзе лугамі паўз раку і блізкія затокі. На мутным Нёмане стаяць віціны, пры якіх снуюць рабочыя альбо плытагоны — гэта калі ехаць тут зімовай ці вясновай парою. Летам жа плёхаецца тут з венцерам рыбак, а па бязлюдным беразе паважна праходжваецца бацян. На фоне зялёных лугоў і далёкіх цёмных лясоў бялее некалькімі муравванымі пабудовамі само мястэчка, да якога нас перавозіць паром…”


Стоўбцы. Уезд у горад. 1930-я гады

У Залуччы працаваў памочнікам-сакратаром Сыракомлі Вінцэсь Каратынскі (1831–1891). Пасля следам за сваім літаратурным настаўнікам ён пераедзе пад Вільню. Першая кніга Каратынскага — “Чым хата багата, тым рада”. Былі і іншыя выданні. Застаўся пасля Каратынскага цікавейшы нарыс “Карціны з берагоў Нёмана”.

У стаўбцоўскай Мікалаеўшчыне нарадзіўся ў 1871 годзе этнограф, фальклярыст, краязнаўца Павел Пятровіч Дземідовіч. Адна з першых навуковых прац нашага земляка — “Батлейка” — была надрукавана ў газеце “Виленский вестник”. І цяпер мае навуковую каштоўнасць публікацыя Дземідовіча “Калядныя святы ў Беларусі”. Апісаў Павел Пятровіч і Масленіцу, Благавешчанне, Купалле, Вялікдзень, іншыя святы і абрады. У 1896 годзе “Этнографическое обозрение» надрукавала этнаграфічны нарыс П. Дземідовіча “З галіны вераванняў і паданняў беларусаў”.

…Але ж, калі я пры сустрэчы нагадаў пра гэтых землякоў Анатолю Грэкаву, ён і сам сёе-тое дадаў у іх біяграфіі, падкрэсліўшы, што постаці вядомыя. Каб наблізіць іх да сучаснікаў, варта часцей перавыдаваць пакінутую імі навуковую, літаратурную спадчыну. Так, Каратынскага ў апошнія дзесяцігоддзі перавыдавалі ці не двойчы. Ды і Сыракомля па-беларуску ўжо прыходзіць да айчыннага чытача. А вось краязнаўцаў, этнографаў, фальклярыстаў здабыткі… Як тут не пагадзіцца з Анатолем Васільевічам.

Пра ўраджэнца старажытнай вёскі Залужжа Мікалая Львовіча Цярпіцкага дык і кнігу асобную варта было б выдаць. Нарадзіўся ён 13 красавіка 1946 года. Залужжа ў Вялікую Айчынную часткова было спалена фашыстамі, але і ў пасляваенныя гады працавала ў вёсцы праваслаўная царква. І бацька, і дзед яго былі святарамі. У 1966–1969 гадах Мікалай служыў у войску. Адукацыю атрымліваў спачатку ў Ленінградскай духоўнай семінарыі, затым вучыўся ў Ленінградскай духоўнай акадэміі. Атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. У 1975 годзе быў накіраваны на стажыроўку ў Папскі Грыгарыянскі ўніверсітэт у Рыме. У сакавіку 1971 года пастрыжаны ў манахі, з красавіка 1975-га — іераманах. Служыў у Аланецкай епархіі, а пасля ў Рабаце (Марока). Займаў пасаду прэзідэнта Экуменічнага Савета Цэркваў Марока. З лістапада 1987 года — епіскап Ташкенцкі і Сярэднеазіяцкі, з 20 ліпеня 1990 — епіскап Наўгародскі і Старарускі, з лютага 1995 — архіепіскап. З’яўляецца прыхільнікам міжрэлігійнага дыялогу. Ганаровы грамадзянін Вялікага Ноўгарада. Галоўны рэдактар часопіса «София». Адзначаны многімі царкоўнымі і дзяржаўнымі ўзнагародамі Расійскай Федэрацыі, у тым ліку — ордэнам “За заслугі перад Айчынай” IV ступені, ордэнам Пашаны. Асоба, сапраўды, вартая кнігі. І не толькі з-за свайго царкоўнага ўзвышэння, а яшчэ і таму, што ў сям’і Цярпіцкіх вера, служэнне Усявышняму пранесена праз пакаленні і, відавочна, з’яўляецца адзнакай шчырасці і надзвычайнай духоўнасці гэтых нашых землякоў.

Стоўбцы, Стаўпеччына могуць ганарыцца такімі асобамі!

## “Знічкі Айчыны” і золата перамогі

**Чытачам нашай пастаяннай рубрыкі спяшаемся паведаміць добрую навіну. У Дзень друку падводзяцца вынікі творчага конкурсу Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро”. У ліку васьмі намінантаў сёлета прэміі атрымалі і тыя, хто шчыруе над гісторыка-краязнаўчым праектам “Знічкі Айчыны”: дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва” Алесь Карлюкевіч і вядомы калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў. Віншуем!**

© В поисках утраченного
Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Кераміка Пікасо — у Магілёве

## Творы сусветна вядомага іспанскага мастака дэманструюцца на выставе ў музеі імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі — філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі

**Таццяна Пастушэнка**

"У экспазіцыі магілёўскага музея прадстаўлена 36 твораў Пікасо, а таксама 12 графічных работ Надзеі Хадасевіч-Лежэ і Фернана Лежэ", — расказала куратар выставы "Кераміка Пабла Пікасо" Ірына Скварцова.

Усяго ж сёння збор Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ўключае 38 твораў Пікасо, якія датуюцца 1948–1960 гадамі. Гэта тыражная кераміка праслаўленага майстра — талеркі, вазы, збаны, створаныя пры непасрэдным удзеле або пад наглядам Пікасо. Асобныя прадметы з калекцыі пазначаны на адваротным баку лікам свайго нумара ў тыражы.

Як сведчаць мастацтвазнаўцы, 31 твор з 38 быў выраблены ў майстэрні Мадура ў Валорысе, дзе Пікасо жыў і працаваў у 1948–1955 гадах. Па словах Ірыны Скварцовай, адзін з цікавейшых твораў мастака ў зборы музея — дэкаратыўнае пано "Жаклін у профіль" 1956 года, на якім намалявана Жаклін Рок, апошняя каханая мастака.


Прэзентацыя выставы твораў Пікасо ў Магілёве прайшла пад знакам сапраўднай падзеі

З'яўленнем збору твораў Пікасо ў сваіх фондах музей абавязаны ўраджэнцы Беларусі, вядомай французскай мастачцы Надзеі Хадасевіч-Лежэ. Яна ў 1967 годзе асабіста перадала ў дар музею 30 твораў, а ў 1971 годзе пры пасрэдніцтве Дзяржаўнага музея выяўленчых мастацтваў імя А.С. Пушкіна ў Маскве яшчэ 8 твораў вялікага мастака, з якім была добра знаёмай і сябравала.

# Сталічнае жыццё паэта

**Таццяна Пастушэнка**

**Пазнаёміцца з мінскімі рукапісамі твораў Янкі Купалы, асобнымі выданнямі з аўтографамі і мемарыяльнымі рэчамі яго сям'і можна ў Літаратурным музеі**

Падобны праект арганізаваны ў Нацыянальным літаратурным музеі імя Янкі Купалы ўпершыню і звязаны з абвешчаным у Беларусі Годам роднай зямлі. Яго мэта — прыцягненне цікавасці да гісторыі Мінска як аднаго са значных і старажытных культурных цэнтраў беларускай зямлі.

Стварэнне выставы абумоўлена як юбілейнай датай (90-годдзе пераезду Янкі Купалы ў Мінск на сталае месца жыхарства), так і важнымі падзеямі ў жыцці паэта з 1919 па 1941 год. Экспазіцыя складаецца з матэрыялаў фондаў Купалаўскага музея і ўключае тры асноўныя раздзелы: "Відзен горад здаля, Горад Мінск стары..." (сустрэча з дарэвалюцыйным Мінскам), "Мінск — сталіца, гордасць наша" (жыццё і дзейнасць паэта ў Мінску з 1919 па 1941 год), "Тэатр — родны дом Янкі Купалы" (стварэнне беларускага тэатра і спектаклі па п'есах Янкі Купалы ў Мінску).

Упершыню на агляд публікі выстаўлены унікальныя фатаграфіі старога горада, рукапісы твораў паэта, напісаных у Мінску, асобныя выданні з аўтографамі, мемарыяльныя рэчы. Асаблівую цікавасць прадстаўляюць выдадзены ў 1907 годзе Купале пашпарт з указаннем мінскіх адрасоў, а таксама малавядомыя фотаздымкі паэта, яго родных і сяброў. Акрамя таго, Мінск 1930-1940-х гадоў паказаны ў работах беларускіх мастакоў-сучаснікаў Янкі Купалы і творах сучасных майстроў.

Мінск увайшоў у жыццё Янкі Луцэвіча з дзяцінства. Тут пачаўся творчы шлях будучага "песняра беларускай зямлі". 15 мая 1905 года ў мінскай газеце "Северо-Западный край" упершыню на беларускай мове быў апублікаваны яго верш "Мужык".

Больш за 100 вершаў і некалькі паэм напісана Купалам у сталіцы. Упершыню Мінск згадваецца ў вершах "Водклік з 29 кастрычніка 1905 года ў Мінску", "Бабулька — прадаўшчыца зёлак", "Над Свіслачай", "Працай дружнай, калектыўнай...".

# Мастацтва сённяшняга дня

**Таццяна Пастушэнка**

Зрабіць модную ўкладку валасоў, прымераць арыгінальную шапачку, навучыцца тэхніцы арыгамі (майстраванне фігур з паперы), навучыцца танцаваць галандскі wodishoo dance — гэтыя і іншыя магчымасці даў удзельнікам і наведвальнікам мінскі фестываль эксперыментальных маладзёжных арт-праектаў "Fun House".

Галоўная задача фестывалю складалася ў пошуку маладых аўтараў, якім цікава займацца творчымі эксперыментамі. Наведвальнікам былі прадстаўлены работы па розных кірунках — музыка, бодзі-арт, цырульніцкае мастацтва, перфоманс, фатаграфія, мода і дызайн.

Развіццю маладзёжных эксперыментальных арт-праектаў было прысвечана пасяджэнне круглага стала з удзелам беларускіх мадэльераў, дызайнераў, мастакоў. Асаблівую ўвагу госці надалі трэнінгам на такія тэмы, як стварэнне паспяховых арт-праектаў, пошук мастацкіх сродкаў для іх рэалізацыі, магчлівасць занятасці моладзі з абмежаванымі магчымасцямі ў сферы рамяства і творчасці. Прайшло і спаборніцтва маладых беларускіх майстроў вершасклада "Бітва паэтаў". "Fun House" наведалі замежныя выкладчыкі сучаснага мастацтва і кіраўнікі арт-праектаў.

# Святло ў родных вокнах

## Адсвяткавала юбілей Бірутэ Куцкайтэ

**Адам Мальдзіс**

Літоўскую мастачку Бірутэ Куцкайтэ з рэдакцыяй газеты "Голас Радзімы" звязвае даўняя дружба. Мы пісалі пра яе выставы, якія ладзіліся ў Мінску і на радзіме — у Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці, пра пленэр памяці жывапісца Льва Дабжынскага, у якім яна творча ўдзельнічала (засталася выява капліцы ў Лошы). Пасля ўсяго гэтага ў маім пакоі з'явіўся арыгінальны нацюрморт, дзе побач з букетам кветак уссядае на кнігах сімпатычны коцік з дапытлівымі вачыма. А ў канцы мінулага года прыйшла з Вільнюса просьба: рыхтуецца юбілейны альбом, пажаданы "зямляцкі" артыкул (мы нарадзіліся і выраслі ў блізкім беларуска-літоўскім суседстве).

І вось нядаўна ў рэдакцыю перадалі свежанькую літоўскую кнігу пад назвай "Гервяцкі край у жывапісе Бірутэ Куцкайтэ". Мушу патлумачыць чытачам, што "Гервяцкі край" — гэта ўжо традыцыйная і напаўафіцыйная назва ўсходняй часткі Астравецкага раёна, дзе вакол мястэчка (цяпер аграгарадка) Гервяты даўным-даўно размясціліся каля дваццаці літоўскіх вёсак. І сярод іх — Кністушкі, дзе стаіць родная хата мастачкі. Там, над берагам Ашмянкі, яна і нарадзілася семдзесят гадоў назад. Туды, да бабулі Разаліі, прыязджала на канікулы. І першыя малюнкі зрабіла ў дзяцінстве, каб утрываліць на паперы старую кністушскую хату — яе вокны і дзверы, яе ложак з грудай падушак, тканыя ды вышываныя ручнікі, а найперш яе насельнікаў, людзей і звяроў, якія не скупіліся на пяшчоту да дзяўчынкі.

Глядзець на прыгожае, перастварацьь яго алоўкам, а потым пэндзлем вучыў Бірутэ бацька, разьбяр па дрэву Уладас Куцка. Дарэчы, яго працы дэманстраваліся на выставах у даваеннай Вільні і пасляваеннай Маскве. У 30-х гадах ён вёў на радзіме напаўлегальную культурна-асветніцкую работу, за што быў арыштаваны прама ў гервяцкім касцёле падчас імшы, пасаджаны ў турму. Свой патрыятызм ён перадаў дочкам — старэйшай Бірутэ і малодшай Ніёле, якая стала вядомай балерынай.


Партрэт бабулі Разаліі. 2005 г.

Перададзены альбом (да яго былі далучаны чатыры карцінымініяцюры, прысвечаныя вокнам бабулінай хаты ў веснавую, летнюю, асеннюю і зімовую пару) пачынаецца з трохмоўнай — літоўскай, беларускай і англійскай — прадмовы Марыі Куодзене. Свой аповед яна пачынае з радкоў: "Бірутэ Куцкайтэ — народная мастачка, якая ўсю сваю творчасць прысвяціла роднаму Гервяцкаму краю (Астравецкі раён, Беларусь). Літоўцы, спрадвечныя жыхары гэтай зямлі, да сёння захавалі сваю мову і самабытнасць. У творах мастачкі — родная вёска, яе наваколле, землякі, бытавыя сцэны, кветкі, жывёлы. Уся прырода тут дыхае паэтычным настроем, людзі высакародныя, свет вёскі гарманічны. Створаны мастачкай вобраз рэчаіснасці адлюстроўвае яе мастацкія ідэалы". Далей расказваецца пра жыццёвы і творчы шлях Бірутэ Куцкайтэ, папулярнасць яе твораў (іх каля дзвюх тысяч). Некалькі дзесяткаў з іх захоўваюцца ў Музеі мастацтва Літвы, многія закуплены ў самыя розныя краіны.

У артыкуле "Лятаючы кот" вяртаецца на Радзіму" рэдактар газеты "Астравецкая праўда" Ніна Рыбік апавядае пра багатыя кантакты мастачкі з Гервяцкім краем.

А далей ідзе асноўнае — каляровыя рэпрадукцыі твораў. Буянне яскравых фарбаў. Прастасць і дакладнасць ліній. Прываблівоюць увагу малюнкі віленскіх святыняў — Вострай брамы з яе абразам Маці Божай, гатычнага касцёла святой Ганны, які ўзводзіўся рукамі гервяцкіх сялян, што належалі Віленскаму біскупству. А побач такі ж сакральны характар набываюць кністушскія хаты. Каля адной з іх стаіць з мальвамі бабуля Разалія (а каля яе — абавязковы, але заўсёды адрозны, "індывідуалізаваны" кот). Сядзіць на лавачцы селянін Ёнас Кармаза. Ляціць у небе бусел. Іграе на скрыпачцы анёл. Цвітуць кветкі, спеюць яблыкі... Усюды — свята, радасць, супакой. Усё нібы просьценька і нібы нават прымітыўна. Але гэта не спрошчанасць. Гэта мастацкае абагульненне, заснаванае на народным поглядзе на свет.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 584